# Згода

ПАЛІТЫКА

N 28 (165) • 7 КАСТРЫЧНІКА 2000Г.


МАРШ СВАБОДЫ

# НЕ ЗМАРНАВАЦЬ ЧАС

**Антон Ляўковіч**

**Пачатак другога восеньскага месяца прынёс пэўнае заспакаенне ў шэрагі беларускай кіруючай эліты. Месца занепакоенасці і страху за свой далейшы лёс у душах чыноўнікаў паступова займае перакананасць, што рэжым, якому яны служаць, пратрывае яшчэ доўга.**

Гэтаму перакананню спрыяюць няўдачы, што церпіць апошнім часам беларуская апазіцыя. Прычым абедзьве яе часткі — і тая невялікая, што прыняла правілы гульні ўладаў ды бярэ ўдзел у выбарах, і тая, што абвясціла гэтым выбарам байкот. Дэмапазіцыйныя ўдзельнікі выбараў у гэтак званую Палату прадстаўнікоў для ўладаў ніякай небяспекі ўжо не ўяўляюць.

Выкарыстаўшы славуты адміністратыўны рэсурс, яны выключылі з перадвыбарчай кампаніі асноўную частку сваіх палітычных праціўнікаў. Тыя ж некалькі чалавек, што былі пакінутыя сярод кандыдатаў у дэпутаты дзеля стварэння дэмакратычнай дэкарацыі маючых адбыцца выбараў, ніякай сістэмнай апазіцыі ў палаце хутчэй за ўсё не ствараць, бо, падобна, ідуць яны на гэтыя выбары зусім з іншымі мэтамі. Нехта, атрымаўшы мандат, хоча пазбегнуць крымінальнага пераследу, нехта проста марыць заспакоіць свае немалыя палітычныя амбіцыі: маўляў, глядіце, я таксама ня горшы за гэтых лідэраў апазіцыі, я таксама абраны народам дэпутат. І ў гэтым сэнсе зробленая на мінулым тыдні заява лідэра БСДП Міколы Статкевіча толькі дае дадатковае пацвярджэнне слушнасці такіх высноваў.



14 КАСТРЫЧНІКА 2000 ГОДА «МАРШ СВАБОДЫ» ЗБОР УДЗЕЛЬНІКАЎ А 15 ГАДЗІНЕ ЛЯ АКАДЭМІІ НАВУК

Фото IREX/ProMEDIA

Нагадаю, што яшчэ пару тыдняў таму, калі Цэнтрвыбаркам не зарэгістраваў у якасці кандыдатаў большасць паплечнікаў спадара Статкевіча, лідэр сацыялдэмакратаў гучна заявіў, што, калі гэтае рашэнне не будзе адмененае, ён ў знак пратэсту супраць свавольства ўладаў ды з-за салідарнасці з сябрамі здыме сваю кандыдатуру. Але, відаць, спадар Статкевіч гаспадар свайго слова ў тым сэнсе, што захацеў даў, а захацеў забраў назад. Некалькі дзён таму ён заявіў, што тая ранейшая заява была памылковай, і здымаць сваю кандыдатуру ён не будзе. Маўляў, трэба змагацца з рэжымам да канца, а не хавацца.

Удзел у выбарах 15 кастрычніка ёсць асабістай справай мізэрнай часткі апазіцыянераў. А што ж аб'яднаная апазіцыя, якая абвясціла байкот выбарчаму фарсу? На жаль, пакуль няма падставаў гаварыць пра тое, што дзеянні байкатоўшчыкаў сур'ёзна пагражаюць існуючай уладзе. Сапраўды, паводле апошніх сацыялягічных апытанняў, каля 40 працэнтаў нашых суграмадзянаў ёсць праціўнікамі Аляксандра Лукашэнкі, а яшчэ прыкладна столькі ж вагаецца, які палітычны бок заняць.

Аднак такі вялікі працэнт пратэстнага электарату аб'яднаная апазіцыя пакуль не здолела зрабіць сваімі перакананымі прыхільнікамі, што яскрава прадэманстраваў «Марш свабоды-3», які прайшоў у Мінску 1 кастрычніка. Колькасць яго ўдзельнікаў (5–7 тысячаў чалавек) больш чым сціплая, і гэта пры тым, што арганізатары планавалі вывесці ў гэты дзень на вуліцы каля 100 тысячаў чалавек. Лідэры аб'яднанай апазіцыі натхняліся прыкладам Югаславіі, дзе на мінулым тыдні апазіцыя перамагла на прэзідэнцкіх выбарах. Маўляў, беларусы, пабачыўшы тэлекарцінку з Бялграда, дзе на мітынг пратэсту супраць фальсіфікацыі Слабаданам Мілошавічам вынікаў выбараў выйшла паўмільёна сербаў, таксама масава хлынуць на «Марш свабоды», і рэжым Аляксандра Лукашэнкі неўзабаве будзе абрынуты.

На жаль, паралелі з Югаславіяй у нашых варунках пакуль не зусім дарэчныя. Там мясцовая апазіцыя правяла вялікую і, як бачым, плённую падрыхтоўчую працу і толькі пасля перамагла дыктатуру. Сербская апазіцыя змагла пераканаць большасць сваіх суграмадзянаў паверыць ім. А 500 тысячаў чалавек выйшлі на вуліцы Бялграда таму, што ведалі: іх падтрымліваюць мільёны людзей па ўсёй Югаславіі, трэба яшчэ трохі націснуць на ўладу, і надыдзе канчатковая перамога. У Беларусі пакуль усё не так.

Беларуская апазіцыя яшчэ не здолела пераканаць большасць людзей у слушнасці сваіх патрабаванняў, таму і яе падтрымка ў грамадстве не такая пераканаўчая. Значыць, трэба шукаць новыя формы данясення да людзей сваёй пазіцыі, больш надаваць увагі інфармаванню насельніцтва, шукаць больш прываблівыя для абываценя формы агітацыі. Выпускаць прыгожыя каляровыя наклейкі і спецвыпускі газетаў цяпер ужо замала. Улады і апазіцыя ўжо заявілі, што іх стратэгічная мэта — атрыманне перамогі на будучых прэзідэнцкіх выбарах. Час для падрыхтоўкі да гэтай важнай кампаніі ў апазіцыі яшчэ ёсць. І вельмі важна яго не змарнаваць. ■



СЕМЬ ДНЕЙ

# ARBIET MACH FREI

**Александр Сдвижков**

**Дела в государстве белорусском идут плохо. Хотя президент и правительство говорят, что хорошо. Но с каждым днем — все хуже и хуже.**

В угрюмое молчание погрузились белорусские милиционеры. Никак не могут пережить назначение новым министром Владимира Наумова. Хотя коллеги из КГБ их успокаивают. Мол, пользы для службы от генерала Наумова как от козла молока, но вреда однако же никакого. И служить на милицейском поприще он будет тоже спустя рукава, как и охранял священную особу государя-президента.

Президент Лукашенко у нас тоже не спит в шапку и втихомолку вынашивает замыслы учинить еще одну кадровую пертурбацию. Чиновники ждут, как сразу же после выборов в палату № 2 их начнут пересаживать с места на место.

Все ожидают пассивный, но массовый бойкот выборов 15 октября. Лишь Андрей Вардамацкий из социологической лаборатории «Новак» не теряет оптимизма и предсказывает тотальное явление к урнам избирателей всея Белыя Руси.

Слегка порадовала зрителей БТ олимпийская сборная. Есть женщины в белорусских селенья — целых 3 женских золотых медали! Остальные — 3 серебряных и 11 бронзовых. Особой гордостью переполнялись сердца белорусов, когда аж 17 раз президентский закат разгорался над зеленеющим белорусским болотом.

Тем временем купчихи-челночницы, курсирующие между Москвой и Минском, озабочены, что с них начнут драть НДС на новой таможенной белорусско-российской границе. Или, что более вероятно, опасаются они, как бы на большой московской дороге разбойники-таможенники не начали брать мзду со всех в подряд, проезжающих с товаром. Того и гляди, последнего заработка лишат.

Не надеясь на государство, отправились на заработки в африканскую страну Ливию три десятка белорусских гастарбайтеров. Им предстоит потрудиться на немецкую фирму «Мёллер» и полковника Каддафи.

Оргнабор на великие стройки джамахирии устроил БПСМ. Хотя далеко не лукамольского возраста отъезжала с вокзала «Минск-Пассажирский» 29 сентября группа работяг и итээров. Между прочим, инженерам обещано по 375 чистыми, а рабочим — по 250 зеленых. ■



Фото автора «Гастарбайтеры»

## АНЕКДОТ-С

***

— Чаму беларусы так павольна рухаюцца?
— Бо прэзідэнт Лукашэнка на шыі сядзіць.
— А чаму ў іх ногі крывыя?
— Бо яны яшчэ на сабе міліцыянтаў цягаюць.

***

У Шклове прэзідэнт размаўляе з народам:
— Як жывеце, таварышы?
— Добра жывем, таварыш прэзідэнт.
— Жадаеце жыць яшчэ лепей?
— А гэта, як вы скажыце.

## ХИТ-ПАРАД ГЛУПОСТИ



**ЗАИГРАЛИСЬ**
*"Нашли какое-то несоответствие между Избирательным и Административным кодексами. Но мы не будем менять правила игры во время самой игры".*
(А. Лукашенко, выступление на Съезде депутатов Советов депутатов, 29.09.00)



**ОБМЕННИК**
*"Я готов где-нибудь на нейтральной территории поменять Короля и Сидоревича на Шлындикова и Богданкевича".*
(Н. Статкевич, пресс-конференция, 28.09.00)



**ЭКВИВАЛЕНТ**
*"Килограммом тротила можно разнести целый городской квартал".*
(АТН, "Панарама", 03.10.00)

## НАВІНЫ



**ПІКЕТЫ.** 29 верасня два з паловай дзесяткі сябраў Маскоўскай суполкі Маскоўскага раёна сталіцы разгарнулі свае плакаты і бел-чырвона-белыя сцяжкі пад вокнамі ІВВ. Пікет прысвячаўся кіраўніку місіі АБСЕ ў Беларусі Хансу-Георгу Віку. Але яго ў рэзідэнцыі АБСЕ не было, таму купка пенсіянераў прыцягнула ўвагу палітычнага дарадцы Эндру Карпэнтэра. Не дачакаўшыся грукання ва ўласныя дзверы, ён сам выйшаў, каб забраць заяву пікетчыкаў. Намеснік старшыні КХП–БНФ Сяргей Папкоў абурана выплёскваў на ветлівага замежніка набалелае. АБСЕ апынулася вінаватай у тым, што беларускія ўлады забараняюць байкатаваць выбары, дазваляюць назіраць за імі, а таксама ўзгадняюць з Вікам умовы мірнага правядзення «Маршу свабоды». Але найвялікшае злачынства АБСЕ, адпаведна заяве, у тым, што яна дазволіла быламу кіраўніку аховы прэзыдэнта Наумаву стаць міністрам унутраных спраў, а яго былую пасаду заняць КДБэшніку Ерыну.

**МІНІМАЛКА.** З 1 кастрычніка мінімальны заробак павышаны да 3 600 рублёў. Павялічваецца таксама і тарыфная стаўка першага разраду — яна дасягне ўзроўню 7 200 рублёў. Не толькі грамадзяне, не толькі незалежныя эканамісты, але і беларускі ўрад, які прымаў гэтае рашэнне, здагадваецца, што яно выглядае як перадвыбарчая рэкламная акцыя, бо фінансавага становішча народа не выправіць.

**МЫТНЯ.** Мытныя пасты на беларуска-расійскай мяжы ў сувязі са змяненнямі ў мытным афармленні і кантролі за таварамі, што ўвозяцца з Расіі і выраблюцца ў трэціх краінах, устаноўленыя не будуць. Пра гэта заявіў намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі Уладзімір Гошын. Ён падкрэсліў, што пагадненне аб мытным саюзе паміж дзвюма дзяржавамі ніхто не дэнансаваў і не збіраецца гэтага рабіць. Разам з тым, разыходжанняў у мытным рэгуляванні становіцца ўсё больш: сёння адрозненні ў стаўках мытных пошлін маюцца амаль па 200 пазіцыях.

**ВІЗЫ.** Польшча плануе ўвесці візавы рэжым для грамадзянаў Беларусі ў сярэдзіне 2001 года. Візавы рэжым не накіраваны на стварэнне больш жорсткага парадку паездак грамадзянаў. Польскі бок разглядае мяжу як бар'ер для нелегальных мігрантаў. Польшча ўступае ў Шэнгенскі звяз і вымушана ўводзіць візавы рэжым с краінамі, якія не ўваходзяць у яго.



**СІНОД.** Увечары 30 верасня ў Мінску завяршыў працу першы ў гісторыі незалежнай Беларусі Сінод Рымска-каталіцкай царквы. Сінод працаваў з 29 верасня 1996 года і правёў за гэты час 8 сесій. Кардынал Казімір Свёнтак зачытаў пасланне Папы рымскага Яна Паўла II, які пажадаў каталікам Беларусі пасьпяховай рэалізацыі рашэнняў Сіноду. Перад прысутнымі выступіў папскі легат, старшыня канферэнцыі біскупаў Італіі Камільё Руіні, які заявіў, што беларускі касцёл *«годна вытрымаў суровыя выпрабаванні цяжкага мінулага»*. Паводле вынікаў працы Сіноду кардынал Казімір Свёнтак зацвердзіў больш за тысячу дакументаў, якія стануць законам Рыма-каталіцкай царквы Беларусі з 6 студзеня 2001 году — пасля асвячэння іх Янам Паўлам II.

**АБВІНАВАЧВАННЕ.** Былы кіраўнік Віленскага вайсковага гарнізона савецкай арміі, а цяпер намеснік міністра абароны Беларусі, генерал-лейтэнант Уладзімір Усхопчык мусіў з'явіцца ў Генеральную пракуратуру Літоўскай Рэспублікі. Усхопчыка абвінавачваюць у шэрагу цяжкіх злачынстваў, звязаных з замахам на незалежнасць літоўскай дзяржавы ў 91-м годзе. Усхопчык у Вільню на допыт не паехаў. Сёлета ў чэрвені Генеральны пракурор Літвы Казіс Педнічас даслаў ліст Алегу Бажэлку, у якім прасіў уручыць судовую позву Уладзіміру Усхопчыку. У адпаведнасці з ёй, генерал-лейтэнанту належыла 2 кастрычніка а 9 раніцы з пашпартам з'явіцца ў Генеральную пракуратуру Літвы.

**ЗБРОЯ.** Падпольная вытворчасць агнястрэльнай зброі выяўлена на кватэры аднаго з работнікаў віцебскага станкабудаўнічага завода «Візас». Адбылося гэта пасля таго, як, выпрабоўваючы чарговы выраб, гаспадар хатняга «арсеналу» смяротна параніў сябе. Аператыўна-следчая група міліцыі, якая прыбыла на месца здарэння, знайшла мёртвага стваральніка зброі, запас патронаў і загатоўкі для некалькіх ствалоў.

## СУД ИДЕТ

# БЕРЕГИТЕ УШИ

**Александр Кавальский**

**3 октября состоялось первое судебное заседание по делу Юлии Чигирь, обвиняемой в нанесении телесных повреждений сотруднику милиции при исполнении им служебных обязанностей.**

Еще в мае этого года Юлия Станиславовна выступала в суде в роли адвоката своего мужа, экс-премьера Михаила Чигиря. Именно в ходе заключительного заседания по делу супруга, когда на вынесение приговора не были допущены родственники обвиняемого, Юлия Чигирь вступилась за них. В начавшейся потасовке, где ей самой были нанесены телесные повреждения, она укусила милиционера за ухо. Этот эпизод и лег в основу уголовного преследования по очень серьезным статьям 187 и 188 УК РБ.

Первое судебное заседание было начато с ходатайств подсудимой. По ее мнению, следствие шло с грубым нарушением уголовно-процессуального законодательства. Так, например, к материалам дела не была приобщена видеокассета, отснятая в момент предполагаемого преступления, свидетельствующая в пользу Юлии Чигирь. Следствие отклонило и ходатайство адвоката о назначении дополнительной судебно-медицинской экспертизы уха потерпевшего. Причем отказы на свои ходатайства Юлия Чигирь получила уже после того, как дело было направлено в суд, и этим она была лишена своего законного права обжаловать эти решения, действия следователя и надзирающего прокурора. Также подсудимой не дали возможности полноценно ознакомиться с материалами уголовного дела до суда и вручили неполное обвинительное заключение.

Суд рассмотрел все ходатайства в порядке поступления и вынес по ним свое решение. Несмотря на серьезные сомнения обвиняемой в объективности председательствующей на процессе, судья Угнивенко будет продолжать вести заседания. Под предлогом того, что нарушения, допущенные в ходе следствия, не могут помешать суду рассмотреть дело по существу, не было удовлетворено ходатайство об отправлении дела на дополнительное расследование. Фактически, этим решением суд отказал в праве обвиняемой обжаловать все нарушения следствия и дал повод судам высших инстанций в последствии отменить приговор. Зато к процессу в качестве общественного защитника был допущен заместитель председателя БХК Гарри Погоняйло. Обвиняемой и ее адвокатам была также предоставлена возможность полного ознакомления с материалами дела. В этой связи следующее заседание перенесли на 6 октября. ■

## ОБЩЕСТВО И ГОСУДАРСТВО

# НЕУГОДНЫЕ ПРОФСОЮЗЫ

**Александр Сдвижков**

**Продолжается противостояние Федерации профсоюзов и государства президента Лукашенко, Белорусский наследник советского ВЦСПС находится под мощным давлением президентских чиновников. Об этом поведал 2 октября председатель ФПБ Владимир Гончарик профактиву минских предприятий.**

Акцию разъяснительной работы со своим активом президиум ФПБ поначалу планировал провести в виде митинга на свежем воздухе. По предприятиям заранее разослали листовки. Даже установили в 5 часов вечера микрофоны у входа в здание ФПБ.

Но на несанкционированное уличное мероприятие профбоссы не решились и всех собравшихся пригласили в зал заседаний. Перед ними усадили на сцене весь президиум ФПБ. Хотя для рядовых членов мест в зале не хватило. Любопытствующие профсоюзники стояли в проходах, а часть из них разместилась в соседнем зальчике, чтобы послушать радиотрансляцию заседания.

Зрители и слушатели весьма заинтересованно выслушали перечень претензий своего босса властям предержащим. Владимир Гончарик в подробностях поведал собравшимся, как и почему его не зарегистрировали кандидатом на палатных выборах.

Большой интерес вызвали рассказы профбоссов об административно-финансовых мытарствах ФПБ. Там были арестованный счет управления делами президиума, замороженные счета профсоюзных санаториев, прочие мелкие и крупные бюрократические пакости.

Присутствовавшие в зале председатели профкомов столичных предприятий зябко поеживались. Видимо, представляли, как власти начнут мытарить их самих и заводские профилактории. Тем более, если на предстоящем 10 октября съезде ФПБ они не собираются отдавать Владимира Гончарика на заклание. Александра Бухвостова автотракторный профсоюз не сдал президентской власти. Не сдадут и Гончарика.

Не получается из бывшей *«школы коммунизма»* сделать приводной ремень *«рыночного социализма»*. Стало быть, в недалеком будущем ФПБ ожидает окончательный разгром и экспроприация всей профсоюзной собственности. А на месте неугодной Федерации будет организован *вертикальный профсоюз*, по образу и подобию совместных синдикатов рабочих и директората, некогда созданных в Испании генералиссимусом Франко. ■

# ПРАФСАЮЗНЫЯ ПАКУТЫ

**Таццяна Папова**

**Апошні тыдзень верасьня стаў апошнім тыднем правядзеньня зьездаў галіновых прафсаюзаў, што ўваходзяць у склад Фэдэрацыі прафсаюзаў (беларускай). Усе удзельнікі сходаў амаль аднадушна выказаліся за неабходнасьць карэктыроўкі сацыяльна-эканамічнага курсу краіны. Рэформы мусяць мець на мэце павышэньне эфэктыўнасьці вытворчасьці, а на гэтым грунце й дабрабыту насельніцтва.**

Фэдэральны старшыня Уладзімір Ганчарык абвясьціў, што пастаўленыя ўладамі задачы зьмяніць лідэраў галіновых аб'яднаньняў сваімі прызначэнцамі ня мелі посьпеху. На кіруючыя пасады былі абраныя прапанаваныя прафсаюзнымі чальцамі дзеячы. Спрэчкі наконт тактыкі дзеяньняў Фэдэрацыі скончыліся. Прафсаюзныя дзеячы аб'ядналіся вакол ідэі аб поўнай незалежнасьці ад улад у вырашэньні сваіх унутраных спраў.

Па словах Ганчарыка, Міністэрства прамысловасьці захапіла функцыю кіраваньня прафсаюзнымі арганізацыямі. Яно часта выступала афіцыйным ці ценевым ініцыятарам стварэньня асобных прафсаюзаў на прадпрыемствах. Такія праблемы ўзьнікалі на трактарным заводзе, вытворцы электронікі «Інтэграле». Сьпіс можна працягваць.

Улады тлумачаць хісткім прафсаюзьнікам фінансавыя плюсы невялікіх аб'яднаньняў. Усе ўнёскі чальцоў будуць патрачаныя на іх, а не на фэдэрацыйнае начальства. Кіраўнікі прадпрыемстваў і старшыні прафкамаў звычайна запрашаюцца на размову з прадстаўніком улады. Прафкамы змушаюць прымаць рашэньні, што супярэчаць заканадаўству аб прафсаюзах і статуту прафсаюзаў. Фэдэральнае кіраўніцтва рэагуе зваротамі да чальцоў прафарганізацый з заклікамі не паддавацца прэсынгу і ў міжнародныя арганізацыі з просьбамі дапамагчы. Міністэрскія дзеячы ігнаруюць звароты апанэнтаў у Міжнародную арганізацыю працы. Яны заяўляюць, што правы прафсаюзаў у Беларусі не парушаюцца.

У ліпені, пасьля праверкі Дзяржаўным камітэтам фінансавых рассьледаваньняў, быў зачынены рахунак кіраваньня справамі Фэдэрацыі. Пасьля ўсіх дэмаршаў, зваротаў у Адміністрацыю прэзыдэнта, пракуратуру, нацбанк і г.д., толькі 26 жніўня апэрацыі па гэтым рахунку былі адноўленыя. Кіраўніцтва прафсаюзу не пацярпела. А вось каля сотні прыбіральнічак, электрыкаў, сантэхнікаў ды іншых ансылярыс не атрымлівалі заробкі й не мелі магчымасьці карміць свае сем'і.

Не пасьпеў камітэт скончыць праверку, як у прафэсыйнасьці яго працаўнікоў засумнявалася інспэкцыя Падаткавага камітэту. 18 верасьня новыя рэвізоры акупавалі фэдэрацыйную бухгальтэрыю. На працягу васьмёх дзён яны шукалі новую зачэпку. На дзявяты дзень зьявілася пастанова: разьліковы рахунак зачыніць. Маўляў, арганізацыя ня мае ліцэнзыі на транспартныя паслугі сваім чальцам. Падаткавыя інспэктары й чуць не жадаюць, што кіроўцы ёсьць структурным падразьдзяленьнем самой Фэдэрцыі, што кожны галіновы прафсаюз рэгулярна пераводзіць грошы на ўтрыманьне транспарта й заробкі кіроўцам. Пакутаваць праз гэта зноў давядзецца шарагоўцам. Неўзабаве ім павінны былі выплаціць заробкі.

Старшыня Фэдэрацыі прафсаюзаў (беларускай) у лік кандыдатаў у дэпутаты не патрапіў. Дадзеныя ў падпісных лістах былі прызнаныя несапраўднымі. Цяпер ён разам з Аляксандрам Бухоставым крыўдзіцца на Цэнтарвыбаркам за тое, што «Статкевіча выцягнулі за вушы», а іх — не. Магчыма, гэта й да лепшага. Нічога не будзе адцягваць увагу ад маючага адбыцца фэдэрацыйнага зьезду. На гэтае мерапрыемства запрасілі прадстаўнікоў МАП, але ўлады забаранілі замежнікам наведаць зьезд. ■

## 15 КАСТРЫЧНІКА

# ПЕРАСЛЕДЫ

Па інфармацыі праваабарончага цэнтра «Вясна», за ўдзел у акцыі «Байкот–2000», пачынаючы з 15 верасня, было затрымана больш за 80 чалавек. Некаторыя з іх ужо прыцянуты да адміністратыўнай адказнасці. Штрафы ў памеры 5 мінімальных заробкаў атрымалі Лявон Баршчэўскі, Уладзімір Кішкурна, Лявон Садоўскі, Віктар Івашкевіч. Па 2 мінімальных заробка прысудзілі Юрыю Хадыку, Алесю Бяляцкаму, Аляксандру Кадукову, Сяргею Шынкевічу. Некаторыя байкатысты пакуль што абышліся толькі папярэджаннямі.

Між тым кампанія байкоту працягваецца. Пасля масавай акцыі ў Мінску мерапрыемствы супраць удзелу ў лукашэнкаўскіх выбарах 8 кастрычніка працягнуцца ў 23 гарадах Беларусі, у тым ліку ў Гродне, Віцебску, Лідзе, Пінску, Баранавічах, Магілёве, дзе таксама былі затрыманні. Нягледзячы на запалохванні і пераследы ўладаў апазіцыя мае намер правесці ў сталіцы 14 кастрычніка яшчэ адну масавую акцыю.

З НАГОДЫ

# ВЫБАРЫ І ВЫБАР

Аляксей Кароль

**Чацверты з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі аднадушна, у поўнай адпаведнасці з рашэннем Кангрэса дэмакратычных сілаў, прыняў рэзалюцыю, у якой удзел у выбарах быў адназначна пастаўлены ў сувязь з выкананнем уладамі чатырох умоў, сфармуляваных аб'яднанай апазіцыяй і АБСЕ. Для прыняцця рашэння аб удзеле ў выбарах на іншых умовах, пры іншых абставінах рэзалюцыя прадугледжвала абавязковае скліканне другой сесіі з'езда.**

Аднак замест сесіі намаганнямі часткі кіраўніцтва быў праведзены пленум ЦК, які, з аднаго боку, пацвердзіў няўдзел партыі ў выбарах, з другога — дазволіў сябрам партыі вылучацца ў якасці незалежных кандыдатаў. Каб у гэтых выбарах прынялі ўдзел шараговыя сябры партыі — гэта адна справа. Але калі ў передвыбарчую гульню ўключыліся старшыня партыі і яго бліжэйшыя намеснікі — зусім другая. Гэта двухсэнсоўная пазіцыя, якая абярнулася фактычным удзелам партыі ў выбарах, спарадзіла шмат складаных калізій, у тым ліку маральнага кшталту. Еднасць, адданасць прынцыпам, адзінства дэмакратычных сілаў выступаюць ці не галоўнымі ўмовамі ў пераадоленні нашай агульнай бяды — дыктатуры.

Пазіцыя сацыял-дэмакратычнага кіраўніцтва ўнесла пэўны разлад не толькі ў дэмакратычны рух, яна адбілася і на ўнутрыпартыйным становішчы. Адназначна супраць дзеянняў Статкевіча выступілі сябры абласной і гарадской Гродзенскай арганізацыі, большасць Магілёўскай, Віцебскай, Мінскай абласных суполак БСДП. Нязгодныя з пазіцыяй Мікалая Статкевіча сацыял-дэмакраты ўрэшце прынялі рашэнне аб стварэнні фракцыі і выступілі з адпаведнай заявай. Аб адмове ўдзельнічаць у выбарах нядаўна заявіла і Пухавіцкая арганізацыя.

Ход выбарчай кампаніі сведчыць, што ўлады не прапусцяць у палату ніводнага непажаданага для іх кандыдата, што разлік на стварэнне нейкай сістэмнай апазіцыі ў яе рамках быў памылковы і ўжо праваліўся. Гэтак жа як распачаты масавы пераслед за байкот выбараў паказвае, што менавіта ў дзеяннях прынцыповай апазіцыі ўлады бачаць найбольшую для сябе небяспеку. Аднак, нягледзячы на папрокі паплечнікаў па дэмакратычнай апазіцыі і сябраў партыі, на заявы міжнароднай супольнасці аб непрызнанні вынікаў выбарчага фарсу, на апошняй прэс-канферэнцыі Статкевіч заявіў, што працягне барацьбу за месца ў Палаце прадстаўнікоў. Што тут скажаш? Выбар, вызначэнне сваей пазіцыіі для кожнага чалавека заўсёды ёсць справа няпростая. Асабліва грамадскай пазіцыі, і асабліва ва ўмовах напаўтаталітарнага рэжыма, які вымагае ад чалавека праяўлення не лепшых, а найгоршых якасцей. Дзеля выжывання, прыстасавання, кар'еры, панавання, задавальнення ўласных амбіцый.

Ва ўмовах, што склаліся, стварэнне фракцыі было вымушаным. Яно сталася ці не адзіным сродкам передолення аўтарытарных тэндэцый у кіраўніцтве і разладу ў шэрагах партыі, захавання яе сацыял-дэмакратычнага аблічча, умацавання адзінства дэмакратычных апазіцыйных сілаў.

■

ЛІСТ У НУМАР

# НЕ ВЫБАРЫ, А ПАКАЯНЬНЕ І БРАТНЯЯ ЕДНАСЬЦЬ

Зьміцер Марчук

***«Браты, у імя Госпада нашага Ісуса Хрыста малю вас, каб вы гаварылі адно і каб не было сярод вас падзелу, каб вы былі злучаныя ў адным духу ды ў адной думцы»*** **(Біблія, 1 Карынфянам, 1–10). Менавіта з гэтымі словамі я хацеў бы зьвярнуцца да тых палітыкаў, якія, насуперак рашэньню Кангрэса дэмакратычных сілаў байкатаваць гэты фарс, упарта лезуць у фіктыўны орган. Бог дапусьціў нам дыктатуру, каб у агульнай бядзе нацыя ядналася й мацнела. Балюча назіраць, як з пачаткам так званай передвыбарчай кампаніі мае паплечнікі па змаганьню сталі абліваць брудам іншых. Шкада, што гэта адбываецца ў 2000-ыя ўгодкі нараджэньня Хрыста, які якраз і прыйшоў на зямлю яднаць людзей ў Любові, Міры й Згодзе.**




Пішу ўпершыню, таму прадстаўлюся. Займацца грамадзскай дзейнасьцю я пачаў пад час перабудовы на Беларусі ў 1989 годзе. Працуючы канструктарам на заводзе аўтаматычных ліній, я ўзначальваў адну зь першых суполак падтрымкі Народнага фронту. Нават спрабаваў вылучацца ў 22 гады ў Вярхоўны Савет 12 скліканьня. З 1995 году я ў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада», старшынёй якой з'яўляецца Мікола Статкевіч. За аддзінаццацігадовую палітычную дзейнасьць шмат плошчаў і прасьпектаў мне давялося патаптаць у дэманстрацыях, за што быў тройчы асуджаны. А таму маю маральнае права не толькі раскідваць па начох і ў любое надвор'е ўлёткі, але й пакрытыкаваць начальства. Тым больш, што цяпер я стаў старшынёй раённай арганізацыі й сябрам ЦК партыі.

Не хацеў раней выносіць сьмецьце з хаты, але што стане з хатай! Бо справа тычыцца гонару партыі. Пачну з таго, што папрашу прабачэньня ў партыяўсаюзьніц за тое, што падвялі мы іх у адказную хвіліну. Мы ж абяцалі быць разам, але некаторыя лідары нашай партыі, насуперак рашэньню з'езда партыі й Кангрэса дэмакратычных сіл, вырашылі прымаць удзел у выбарах, а значыць — удзельнічаць у легітымізацыі дыктатарскага рэжыму. Каюся, што і я галасаваў за такі дазвол на ЦК, які быў праведзены ў сьпешцы на наступны дзень пасьля Усебеларускага з'езду. Такім неабдуманым крокам мы паставілі пад пагрозу рашэньне Эўропы аб дасыланьні назіральнікаў у дзень выбараў. Дзякуй Богу, што намаганьнямі аб'яднанай апазіцыі гэтага не адбылося. Мікола Статкевіч проста скарыстаў наш давер яму як змагару й пакутніку рэжыму. Прашу прабачэньня й за той бруд, які быў выліты на лідараў іншых партыяў. Гэта сьведчанне недахопу хрысьціянскай маралі. Сорамна перад калегамі з дэмакратычнай апазіцыі й перад Богам.

Бо ў нас зараз адна бяда — дыктатура, але нават ў дэмакратычных варунках партыйныя інтарэсы не вышэй за нацыянальныя й не вышэй за Божыя. Большасьць апазіцыйных партыяў гэта разумее ці інтуітыўна адчувае. Спадзяюся, што мае паплечнікі таксама гэта зразумеюць, пакаюцца й адмовяцца ад гульні ў выбары ад лукавага. Інакш наша партыя, нягледзячы на ўсе папярэднія заслугі ў змаганьні супраць дыктатуры, будзе мець рэпутацыю здрадніцы, а наш партыйны бос — амбіцыйнага і непрадказальнага лідара. Нельга забывацца хоць бы на афіцэрскі гонар, калі не хапае хрысьціянскай маралі.

Нехта думае, што вера й палітыка — узаемавыключальныя рэчы. Гэта памылковая атэістычная думка, бо штодня кожны чалавек робіць выбар. Мы зацягнутыя ў сусьветную палітычную гульню, таму лёс усяго чалавецтва залежыць ад кожнага. Калі мы не займаемся палітыкай, яна займаецца намі. У Бібліі знаходзім галоўных удзельнікаў палітычнага супрацьстаяньня ў сьвеце — Бога й ашуканца-цмока (Быцьцё 3:14–15). Тут бачым і першы чалавечы электарат — Адама й Еву, якія зрабілі свой выбар на карысьць сатаны. Аўтаматычна яны былі пазбаўленыя бесклапотнага райскага жыцьця й атрымалі пакутлівае.

Гэтая гісторыя паўтараецца. Тактыка лукавага не зьмянілася: спачатку ён заманьвае ўладай, грашыма, ільготамі, прывілеямі, а затым зьнішчае. Што сталася зь некаторымі нашымі палітыкамі, якія спачатку пагадзіліся, а пасьля адмовіліся яму служыць? Чаму шмат беларусаў загінула ад рук камуністаў, фашыстаў, ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, у трагедыі на станцыі метро «Няміга»? Што за Божыя знакі для нас нядаўнія ўраганы й засухі, не ўласьцівыя для Беларусі? Чаму Бог дапусьціў дыктатуру?

Бо сатана спаняволіў гэты сьвет (Лука 4:6) і чыніць нам усялякія спакусы, беззаконьні, гвалт і сьмерць. Беларусь не выключэньне. Але ж мы й самі дапамагаем яму сваімі грэшнымі думкамі, словамі й паводзінамі. Акрамя таго, што кожны з нас грашыць звычайнымі чалавечымі грахамі, грэх ляжыць на ўсёй нацыі. Нам усім трэба каяцца ў тым, што мы адракліся ад Бога, ад роднай мовы, што разам з акупантамі зьнішчалі царкоўныя будынкі, забівалі вернікаў, рабавалі й гналі свой і іншыя народы ў рабства маскоўскай і савецкай імперыі. Беларусы вінаватыя й у тым, што абралі сабе ў прэзідэнты бязбожніка, які й не хавае, што ён *«праваслаўны атэіст»*. Каб гэта быў чалавек у Духу Божым, ён бы ня хлусіў амаль увесь час, ня кляўся б пад час выбараў, не расстрэльваў бы людзей на паветраным шары, не ставіў бы сабе кумірам язычніцкага антыхрыста Гітлера. Ці стаў бы веруючы чалавек зьнішчаць нацыянальную мову й сімволіку (бел-чырвона-белы сьцяг — сімвал Хрыстовы, які носяць нават праваслаўныя сьвятары на вопратцы, а на шчыце пагоні — крыж), зьбіваць дубінкамі й кідаць ў турмы дэпутатаў, моладзь ды інтэлігенцыю, памнажаць сілавыя органы для сваёй аховы й сварыцца з пасламі іншых краінаў?

У Бібліі напісана, што ўлады падзяляюцца на зямныя й на нябесныя. Таму палітычнае супрацьстаяньне адбываецца й на духоўным і на чалавечым узроўні (Эфес. 6:10). Стрымаць нападкі, пасткі, правакацыі й шантаж з боку дэманічных сілаў дапамагае духоўная зброя: вера, малітва, пакаяньне, Слова Божае, мір і любоў да ўсіх людзей (Мацьв. 4:3, 5:44, 6:13, 17:15). Дыктатуры — гэта вынік бязбожнасьці й уладароў і насельніцтва, якое выбірае іх. Каб скінуць дыктатуру, адных дэманстрацыяў пратэсту недастаткова, хоць і яны вельмі патрэбныя ва ўмовах забароны тэлебачаньня й радыё. Што ня можа чалавек, тое можа Бог. За любыя ўлады трэба маліцца (1 Цім. 2:1–4), тым больш за бязбожныя, каб Бог прывёў іх да пакаяньня й уратаваў іх душы. Уратаваная ў Хрысьце душа начальніка ня здольная да узурпацыі ўлады. Уратаванаму народу ня страшны ніякія узурпатары, бо іх проста ня будзе. Узгадайце, як скончылася жыцьцё Машэрава, які быў ня самым горшым кіраўніком, але кіраўніком камуністычнага рэжыму. Ён хацеў зьнішчыць Чырвоны касьцёл і забараніў будаваць баптысцкую царкву, аб якой тады маліліся па ўсёй Беларусі. Хрыстовыя храмы стаяць, а дзе ён?

Як жа чалавецтву наблізіцца да Царства Нябеснага? Адназначна — кожны павінен пачаць з сябе, бо *«няма праведніка ніводнага»* (Рымл. 3:10).Нават многія з тых, хто лічыць сябе веруючым і выконвае царкоўныя абрады, часта слабыя перад грахом, калі не *«народжаныя звыш Духам Сьвятым»* (Ян 3:7).

Кожны можа далучыцца да штодзённай малітвы за ўратаваньне Беларусі, усяго сьвету й тым больш Расеі, каб людзі пазбавіліся ўсякага ідалапаклонства й жылі ў Божым Духу Сьвятым — у Любові, Міры і Згодзе. А тым, хто ўжо жыве ў Хрысьце, нагадаю: *«Стойце ў свабодзе, якую дараваў вам Хрыстос, і не падпадайце зноў пад ярмо рабства»* (Гал. 5:1).

■

ПАЛАТА № 1




# АПОШНЯЯ ВОСЕНЬ

Таццяна Папова

**Неяк несур'ёзна распачалася 2 кастрычніка 12-я сэсія Палаты прадстаўнікоў Нацсходу. Дэпутаты не імкнуцца актыўнічаць у новым сэзоне, усьведамляючы, што цяпер ад іх няшмат залежыць. Восеньская сэсія 2000-га году прадугледжвае 3 паседжаньні, на якіх трэба абмеркаваць 28 законапраектаў.**

Нават урачыстая прамова кіраўніка ніжняе палаты з нагоды адкрыцьця сэсіі нагадвала маленьне аб душах тых, каму больш не сядзець ва ўтульных кабінэтах, не сьнедаць у дэпутацкім буфэце, ня чуць віншаваньняў з уласным днём народзінаў з вуснаў Малафеева напачатку паседжаньня. Папрацавалі й годзе. Цяпер «пажадаем нашым спадкаемцам посьпехаў у нялёгкай, але ганаровай і адказнай працы на карысьць нашага грамадзтва».

Хто-ніхто, аднак, намагаўся праціснуць свае законапраекты ў павестку караценькае сэсіі. Дэпутат Драко прапанаваў вызначыцца па праекце закона аб выбарах дэпутатаў у парлямэнт Саюзнае дзяржавы. Яно й ня дзіўна. Драко няма ў сьпісах кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Цяпер ён занепакоены пошукамі новага месца працы. Старшыня палаты катэгарычна адмовіў Драко.

Затое з жушмавай прапановай павіншаваць алімпійскую зборную Беларусі зь перамогамі ў Сыднэі пагадзіліся адзінагалосна. Гонар баламута за спартоўцаў перайшоў і да астатніх палатнікаў. Жушму даручылі аформіць афіцыйную паштоўку.

Прыхільна паставіўся Малафееў і да прапановы Васіля Хрола вырашыць нешта з аплатай лішняе плошчы жыхарамі прыватызаваных кватэр. Кіраўнік палаты сам сутыкаўся з такой праблемай. Ён зразумеў калегу з паўслова й загадаў тэрмінова падрыхтаваць законапраект. Імкненьне разабрацца з гэтым пытаньнем узьнікла ў Хрола ў часе ягоных сустрэч з выбаршчыкамі. Напярэдадні 15 кастрычніка ён стаў асабліва чулым да іх патрэбаў.

Бадзёры настрой дэпутатаў зьнік, калі яны перайшлі да разгляду надзённых пытаньняў. Ратыфікавалі канвэнцыі аб барацьбе з бомбавым тэрарызмам і ахове пэрсаналу ААН, пагадзіліся з рашэньнем Лукашэнкі аб сяброўстве з Таджыкістанам, паскасоўвалі непатрэбныя заканадаўчыя акты.

Толькі абмеркаваньне бюджэту на 2001 год прымусіла прачнуцца соннае малафееўскае царства. Міністар фінансаў Мікалай Корбут чытаў сваю справаздачу па дакумэнце з хуткасьцю ледзь не 350 слоў у хвіліну. Калі б дэпутаты не разглядалі праект бюджэту ў сваіх камісіях, яны б наўрад ці нешта зразумелі з блытаніны лічбаў і фактараў.

У наступным годзе ўлады мяркуюць атрымаць даходаў крыху больш як на 5694 мільярдаў BYB. Трэцюю частку гэтае лічбы яны атрымаюць з падатка на даданы кошт. Падатак на прыбытак павялічыцца з 25-ёх да 30-ёх адсоткаў. Па словах міністра, гэта будзе зроблена выключна для уніфікацыі з расійскімі паказальнікамі. Зьнешні гандаль забясьпечыць ня больш 5,2 адсотка даходаў краіны. Абавязковы аб'ём спагнаных з насельніцтва штрафаў складзе прыблізна 25 мільярдаў разьліковых білетаў.

Патраціць жа задумалі 5942 мільярды BYB. Асноўнымі артыкуламі расходаў стануцца выдаткі на сацыяльнае забесьпячэньне найбяднейшага насельніцтва, заработную плату, стыпендыі, пэнсіі, харчаваньне й мэдыкамэнты для бюджэтных установаў. З гэтых жа грошай плянуецца фінансаваньне 30-ёх дзяржаўных праграм і нарошчваньне экспартнага патэнцыялу разам са стымуляваньнем рэальнага сэктару эканомікі. Значную частку расходаў будзе складаць выкананьне абавязацельстваў па ўнутраных і зьнешніх дзяржаўных запазычанасьцях.

Агульны аб'ём субсыдый і падаткавых ільгот у 2001 годзе будзе скарочаны. Да радасьці мінфіну, скончыцца ўрэшце тэрмін дзеяньня заканадаўчых актаў, што ўсталявалі ільготнае падаткаабкладаньне ў станкабудаўніцтве й вытворчасьці тэлевізараў. Паменшыцца сума грошаў, што пералічвалася зь бюджэту ў фонд падтрымкі сельскае гаспадаркі. Захаваюцца субсыдыі жыльлёва-камунальнай гаспадарцы й на жыльлёвае ж будаўніцтва.

Палутараадсоткавы дэфіцыт плянуюць кампэнсаваць з дапамогай Нацбанку й прыцягненьня свабодных валютных сродкаў юрыдычных асоб. Апошніх будуць заахвочваць да набыцьця каштоўных дзяржаўных папер.

Большасьць прысутных нічога супраць такога выгляду дакумэнту ня мела. Адмовіўся прымаць бюджэт у першым чытаньні Васіль Хрол. Ён падлічыў, што на сродкі, вылучаныя дакумэнатам на прыярытэтную жыльлёва-будаўнічую галіну, нават пры актыўнай дапамозе насельніцтва, больш 9-ёх тысячаў сем'яў кватэрамі не забясьпечыш. Мікалай Корбут супакоіў дэпутата, паабяцаўшы прафінансаваць будаўніцтва жыльля з сродкаў Нацбанку. Але Хрол запатрабаваў запісаць гэта ў праекце бюджэту.

Так і не дамовіўшыся зь міністрам, дэпутаты перайшлі да галасаваньня. Праект бюджэту ў першым чытаньні прынялі, бо час набліжаўся да абеду. Канчатковая ж рэдакцыя дакумэнту будзе зацьверджана прадстаўнікамі 12 кастрычніка — на апошнім паседжаньні палаты № 1.

■

